ЛЮБОПЫТНО

## Поймал льва на труп собственной жены

*Останки собственной жены использовал житель танзанийской деревни в качестве наживки для поимки льва-людоеда.*

Крестьянин Селемани Нгонгвечиле обнаружил мертвую супругу в кустах; ее тело было наполовину съедено. Зная, что хищник обязательно вернется и продолжит трапезу, муж потихоньку отравил останки жены и засел в засаду. План сработал: лев скончался. Власти, однако, не в восторге от метода, который использовал Нгонгвечиле, и обещают с ним разобраться.

Кроме того, как сказал в интервью Би-Би-Си шеф местной полиции Симон Дау, его ведомство тоже принимает меры к отлову львов-каннибалов, терроризирующих жителей деревень в районе Линди на юге Танзании, но применяет при этом более ортодоксальные средства.

## Политики еще не у руля, но уже за рулем

*Политики хотят быть у руля? Дадим им руль, решили создатели нового сербского телевизионного шоу "Такси". В этой передаче политики работают таксистами, выслушивая от пассажиров все, что те думают о положении в стране.*

Создатель этого шоу Танасие Куниевич считает, что такая формула позволяет преодолеть разрыв между простыми сербами и слегка потерявшей связь с реальностью политической элитой.

ДУХОЎНЫ СКАРБ

*Алег ТРУСАЎ:*

# «ТБМ — гэта назаўсёды»

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы" адзначае 15-годдзе. Ад самага пачатку ўзначальвалі арганізацыю асобы надзвычай аўтарытэтныя. З 1989 па 1997 — Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, потым два гады — Генадзь Бураўкін, якому выпала роля "крызіснага менеджэра". З 1999 года і па сённяшні дзень кіруе ТБМ Алег ТРУСАЎ, вядомы навуковец і грамадскі дзеяч. З ім сустрэўся наш карэспандэнт напярэдадні юбілею Таварыства.

**— Алег Анатольевіч, пытанне "неюбілейнае": у Вас няма пачуцця, што высілкі ТБМ дарэмныя, што сёння мы вярнуліся ў тую кропку, адкуль пачыналі 15 год таму, з той хіба розніцаю, што тады стартавыя ўмовы былі лепшыя?**

— Не, я не лічу працу ТБМ дарэмнай, тым болей — безвыніковай. Сам факт існавання нашай арганізацыі ў сённяшніх умовах дае рэальныя падставы для аптымізму. І мы не проста існуем, але працуем. У другой палове 90-х Таварыства беларускай мовы насамрэч перажывала крызіс, але мы яго пераадолелі. Пераломным для нас стаў 1999 год. Мы, так бы мовіць, набылі другое дыханне.

**— Што ж такога здарылася ў той памятны год?**

— Мы выйгралі перапіс насельніцтва.

**— Гэта гучыць, як "Мы перамаглі на выбарах"...**

— Па сутнасці яно так і ёсць. Перапіс ладзіўся для атрымання звестак, неабходных для доўгатэрміновага эканамічнага і сацыяльнага планавання, але, акрамя таго, гэта была яшчэ і палітычная акцыя. "Інтэграцыйныя" памкненні ўлады рэальна пагражалі самому існаванню беларускай дзяржавы. Паколькі "інтэгратары" цудоўна разумелі, што справа іхняя нячыстая і ў маральным, і ў юрыдычным сэнсе, ім была вельмі патрэбная ілюзія народнай падтрымкі. Вось чаму перапіс разглядаўся як магчымасць давесці, што, паколькі беларуская мова мёртвая, а руская беларусам родная, дык паміж рускім і беларусам няма ніякай розніцы, а значыць, чаму б нам не жыць у адзінай рускай дзяржаве.

У падкантрольных уладзе СМІ тады сцвярджалася, што на беларускай мове ніхто не гаворыць, што ў гарадах ёю карыстаецца не болей 3—5 працэнтаў жыхароў, што моўнае пытанне адцягвае нас ад вырашэння эканамічных задач, ізалюе ад навакольнага свету і гэтак далей. Чамусьці партыі і рухі, якія абвяшчалі сябе абаронцамі дэмакратыі і дзяржаўнага суверэнітэту, ніяк не рэагавалі на гэтую антыбеларускую, фактычна антыдзяржаўную прапаганду. ТБМ удзячнае газеце "Народная воля", якая напярэдадні перапісу падтрымлівала нашу пазіцыю, давала Таварыству магчымасць звяртацца да грамадства.

Дзеля таго каб улада мела прастору для дэмагагічных маніпуляцый, у апытальныя лісты было ўведзена вельмі хітрае пытанне. Акрамя мовы роднай і іншай, якой вольна валодаеш, трэба было яшчэ назваць мову, "на якой звычайна размаўляеце дома". Па сутнасці гэта было ўмяшанне ў прыватнае жыццё, а з адказаў можна было рабіць якія заўгодна высновы. І ў савецкія часы сацыяльныя апытанні не саромеліся ператвараць у прапагандысцкае шоу, але да такога не дадумаліся. А каб з'арыентаваць на "правільныя" адказы, ад пачатку планаваліся толькі рускамоўныя апытальныя лісты. Пасля зваротаў ТБМ людзі сталі патрабаваць, каб лісты былі складзены па-беларуску. І ўжо гэта з'явілася нашай перамогай.

Тое, што, нягледзячы на псіхалагічны ціск, роднай назвалі беларускую мову больш за 80% беларусаў і больш за 70% ад агульнай колькасці людзей іншых нацыянальнасцяў, што беларуская мова родная амаль для 70% гараджан, для ўлады было шокам. Нездарма поўгода гэтыя звесткі хавалі ад грамадства. А нам вынікі перапісу, як я ўжо казаў, надалі другое дыханне.

**— Улада ўспрымае вашу арганізацыю як палітычную партыю?**

— Пры жаданні палітыку можна знайсці ў чым заўгодна. Але насамрэч мы добраахвотная непалітычная арганізацыя, якая мае мэтаю захаванне і развіццё галоўнай каштоўнасці нацыі — беларускай мовы. ТБМ мае суполкі па ўсёй Беларусі і ў месцах кампактнага пражывання беларусаў за межамі нашай дзяржавы.

Мы не змагаемся за беларушчыну як такую, за беларушчыну ўвогуле. Але змагаемся заўжды за канкрэтнага вучня ці настаўніка, за беларускія словы на канкрэтнай шыльдзе ці афіцыйным бланку. Мы адкрытыя для кантактаў з уладай, палітычнымі партыямі, паспалітымі грамадзянамі, дабрачыннымі арганізацыямі.

**— Тое, што ў электрычках абвесткі робяць на беларускай мове і дзвюхмоўная інфармацыя на станцыях метро, ваша заслуга?**

— У значнай ступені наша. Мы арганізуем лісты сяброў Таварыства і проста неабыякавых грамадзян ва ўстановы, якія ігнаруюць афіцыйны статус беларускай мовы. Калі такіх лістоў тысячы, дзесяткі тысяч, то тыя, хто іх атрымлівае, мусяць неяк рэагаваць.

**— Логіка бізнесоўцаў мне зразумелая. Чаму б не зрабіць беларускую этыкетку, калі гэта можа пашырыць кола пакупнікоў і карыстальнікаў, а значыць — абяцае прыбытак. А як на вашыя звароты рэагуюць у міністэрствах? Міліцыю і войска беларусізаваць здолееце?**

— Не без нашага ўплыву Міністэрства абароны свае афіцыйныя канверты ўжо робіць дзвюхмоўнымі. На беларускую мову перакладаюцца вайсковыя статуты.

Відаць, не было б праблемы з перакладам на беларускую мову структур Міністэрства ўнутраных спраў. Я ў гэтым пераканаўся падчас сустрэч з людзьмі гэтага ведамства. Большасць міліцыянтаў — вясковыя хлопцы, якіх роднай мове вучыць не трэба. Хіба што пераарыентаваць іх з пабытавай трасянкі на мову літаратурную. Яны хутчэй маюць праблемы з засваеннем рускай мовы.

**— А што для ТБМ самае галоўнае зараз? Які напрамак у вашай дзейнасці прыярытэтны?**

— Наша дзейнасць накіравана на забеспячэнне правоў беларускамоўных грамадзян карыстацца сваёй роднай мовай. А дзеля гэтага патрабуем ад уладаў унясення змен і дапаўненняў у Закон "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які, паводле рашэння Канстытуцыйнага Суда, не адпавядае Канстытуцыі краіны. На дадзены момант гэта наша галоўная задача.

**— Алег Анатольевіч, давайце ўявім прыгожую карціну: Беларусь зрабіла еўрапейскі выбар, наш нацыянальны сцяг лунае побач са сцягамі іншых краін, на чале дзяржавы — беларускамоўны прэзідэнт, на чале ўрада — беларускамоўны прэм'ер, уся адукацыя і выхаванне, ад дзіцячага садка да вышэйшай школы, — спрэс на нашай мове, на вуліцах толькі і чуеш беларускае слова. У гэтых умовах ТБМ абвяшчае самароспуск?**

— Ні ў якім разе. ТБМ — гэта назаўсёды.

**— Дзякуй за гутарку.**

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

# ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

## Адамкус вновь возглавил Литву

Валдас Адамкус в минувшее воскресенье вновь избран президентом Литвы. Этот пост он занимал уже с 1998 по 2003 год. Внеочередные выборы в Литве были назначены после отстранения от должности Роландаса Паксаса. Во втором туре соперницей Адамкуса выступала Казимира Прунскене, впервые получившая известность в последние годы существования СССР.

Таким образом Валдас Адамкус отыгрался за поражение, которое полтора года назад потерпел от Роландаса Паксаса, обошедшего его, человека, приведшего Литву в НАТО и Евросоюз. Возвращение 77-летнего Адамкуса поставило точку в политическом кризисе в Литве, вызванном скандалом вокруг Паксаса, обвиненного в разглашении государственных секретов и связях с российской преступностью.

Бывший политэмигрант, более 50 лет проживший в Соединенных Штатах, независимый кандидат Адамкус во втором туре выборов набрал 52,2% голосов. Его соперница, бывший премьер-министр Литвы и лидер Крестьянской партии Казимира Прунскене, получила 47,8% голосов.

## Передача власти иракскому правительству состоялась раньше намеченного срока

"Скромная церемония" с участием теперь уже бывшего главы коалиционной администрации Пола Бремера и высших деятелей нового иракского правительства прошла в Багдаде утром в понедельник, сообщил из иракской столицы корреспондент агентства Рейтер.

Ранее передача власти планировалась на среду.

## В Англии разбился легкомоторный самолет, есть жертвы

В графстве Девоншир легкомоторный самолет Cessna-206 упал в поле, в результате чего погибли три человека и еще трое, находившихся на борту, пострадали, сообщает агентство Рейтер.

Сообщение о катастрофе поступило от местного жителя около 18 часов по местному времени. Несмотря на то, что хвост самолета отломился при падении, обломки хорошо сохранились. На место происшествия прибыли пожарные и бригады скорой помощи, а также полиция, которая должна установить причины катастрофы.

## «Аэрофлот» повышает цены на международные рейсы

С первого июля этого года "Аэрофлот" на 5 процентов повышает цену билетов на международных рейсах, сообщает газета "Ведомости". Внутренний курс расчета тарифов, такс и сборов авиакомпании при оформлении авиабилетов изменяется с 30 рублей за доллар на 31,5 рубля за доллар.

По словам главы пресс-службы "Аэрофлота" Ирины Данненберг, повышение цен касается только билетов, которые продаются индивидуально, оно не затронет летние туристические программы на блоки мест, заранее выкупленное фиксированное количество мест на всех рейсах. Индивидуальные билеты составляют примерно 60 процентов продаж "Аэрофлота" на международных рейсах.

Повышение цен связанно с постепенным переводом расчетов цен с доллара на евро. Как объяснила Ирина Данненберг, "именно к евро привязаны цены, к примеру, на ремонт самолетов и заправку".

## Президентом Сербии стал Борис Тадич



В воскресенье в Сербии прошел второй тур президентских выборов. Победу одержал кандидат от Демократической партии Борис Тадич. Республиканская избирательная комиссия Сербии обработала 92 процента избирательных бюллетеней. По предварительным данным, за Тадича проголосовали 53,61 процента избирателей. 45,03 процента голосов получил кандидат от Сербской радикальной партии Томислов Николич.

## В Лондоне прошел олимпийский концерт

Олимпийский факел завершил путешествие по дождливому субботнему Лондону длиной в 31 милю: более 140 человек по очереди пронесли его от Центрального корта Уимблдона до улицы Мэлл у Букингемского дворца, где от факела была зажжена чаша приветствия Афинской Олимпиады.

Впервые с 1948 года, со времени Лондонской Олимпиады, огонь прошел по достопримечательностям британской столицы и завершил свой путь в самом центре города, где в честь зажжения олимпийского огня прошел концерт под открытым небом, на который собрались около 70 тысяч человек.

## «Точечный» удар по раку

**Последние успехи нанотехнологии, по словам ученых, могут оказаться весьма полезными в борьбе с раковыми заболеваниями.** Новинка компании pSivida под названием BrachySil способна доставлять противораковое лекарство непосредственно к цели — в клетки, пораженные злокачественной опухолью.

Одна из главных проблем в борьбе с раком заключается как раз в том, что очень трудно истреблять больные клетки, не задевая здоровые. Известно, что радио- и химиотерапия приносят много вреда человеческому организму своими побочными действиями. Новая система, основанная на материале, известном как *биосиликон,* испытывается в данный момент на двух раковых пациентах в сингапурской больнице, к которым в ближайшее время присоединятся еще 10.

Биосиликон известен своими уникальными свойствами: недорогой в производстве, он саморазлагается, превращаясь в силиконовую кислоту. Кроме того, он не наносит вреда человеческому организму. Наносиликон обладает пористой структурой (10 атомов в диаметре), в которую удобно внедрять лекарства, протеины и радионуклиды. Достигнув цели, биосиликон начинает распадаться, а доставленные им лекарства берутся за работу. Причем, по словам разработчиков, новая система позволяет регулировать дозировку лекарства.

Если испытания в Сингапуре пройдут успешно, BrachySil появится на рынке к 2006 году.

У СУСЕДЗЯЎ

# 1. Хочаце на параход, які плыве па... лузе?

## або Асаблівасці польскага агратурызму

*Мінулым летам мы расказвалі пра некаторыя асаблівасці агратурызму ў Польшчы. Публікацыі выклікалі немалую цікавасць чытачоў і шматлікія пытанні. За прайшоўшы час нам удалося раздабыць новыя факты аб развіцці сельскага турызму ў суседняй краіне. Сёння мы хочам падзяліцца імі з вамі.*

Вы калі-небудзь ехалі на параходзе па... лузе? Параход сапраўдны, з палубай, каютамі, капітанскім мастком... Толькі за бортам ні кроплі вады. Паабапал — кветкі і пасвяцца каровы.

Не, гэта не выдумка, а рэальная прапанова спецыялістаў польскага агратурызму. У паўночна-ўсходнім рэгіёне краіны ёсць Эльблонскі канал, пабудаваны болей за 150 гадоў таму. Даўжыня яго 129 кіламетраў. Калісьці яго скарыстоўвалі для сплаву драўніны і транспарціроўкі тавараў ад Балтыйскага мора. Паколькі канал ад мора ідзе ў гару аж на 100 метраў, дык на ім пяць спецыяльных пад'ёмнікаў, кожны з якіх апускае ці падымае карабель да чарговага воднага адрэзку. На такіх пад'ёмніках параход на спецыяльнай платформе рухаецца па прыгожым лузе.

Турысты любяць ездзіць на параходзе па гэтым канале. Кажуць, уражанні незабыўныя.

Не менш цікава праехаць і па вузкакалейцы. Многія з іх былі забыты, прыйшлі ў заняпад. Спецыялісты па турызме вярнулі іх да новага жыцця. Маленькія паравозікі, якія нібы выехалі з музея, няспешна цягнуць невялікія вагончыкі. За вокнамі прыгожыя краявіды. Вось і першы прыпынак. Для жадаючых наладжваецца прагулка па пушчы, касцёр у лесе. Затым турысты наведваюць музей вузкакалейкі з буйнейшай у Еўропе калекцыяй старадаўніх паравозаў і вагонаў.

Усё больш папулярным робіцца адпачынак у сядле. Шматлікія клубы коннага спорту і лагеры верхавой язды штогод прымаюць тысячы турыстаў. Тут яны вучацца, як даглядаць за коньмі, ездзіць на іх, а для тых, хто ўжо навучыўся трымацца ў сядле, арганізуюцца прагулкі на конях па маляўнічых мясцінах. Для тых жа, хто пакуль няўтульна адчувае сябе ў сядле, наладжваюцца экскурсіі ў брычках. На беразе возера ці рачулкі для экскурсантаў наладжваюцца пікнікі. На кастрах смажаць каўбаскі, парасяціну ці бараніну. Пасля добрага абеду — цікавае паляванне за лісамі, наведванне домікаў леснікоў ці канцэрты фальклорных ансамбляў.

Адпачываючы ў вёсцы, можна не толькі ўволю падыхаць свежым паветрам, пакаштаваць смачныя нацыянальныя стравы, але і пазнаёміцца з традыцыямі польскага сяла. Многія рэгіёны Польшчы інтэнсіўна развіваюць агратурызм, які прыносіць немалыя прыбыткі.

Тут існуе даўняя традыцыя, згодна з якой гарадскія жыхары любяць бавіць час і праводзіць адпачынак у вёсцы. Былі і ўзлёты агратурызму і падзенні. Пасля амаль 50-гадовага перапынку на пачатку 90-х гадоў ён зноў пачаў развівацца, у многіх месцах наладзілі свае формы арганізацыі адпачынку. Цяпер сельскі турызм прызнаны экспертамі Еўрапейскага Саюза адным з пяці асноўных турыстычных напрамкаў Польшчы.

Агратурызм удасканальваецца, павышае якасць. Асобы, якія даюць жыллё прыезджым, аб'ядноўваюцца ў рэгіянальныя таварыствы, звыш 40 такіх таварystваў стварылі польскую федэрацыю вясковага турызму пад назвай "Гасцінны двор". З выкарыстаннем еўрапейскага вопыту праведзена даследаванне жылля тых, хто жадае прымаць турыстаў, вызначаны яго катэгорыі, зыходзячы з сучасных патрабаванняў.

Найбольш развіты агратурызм у раёне Судзецкіх гор, мазурка-сувальскіх азёр. Тут можна не толькі добра адпачыць ад гарадского шуму, але і заняцца рыбнай лоўляй, зборам ягад і грыбоў, наведаць цудоўныя прыродныя мясціны, паабедаць ці павячэраць у лесе, на беразе ракі ці возера.

Дзяржава актыўна падтрымлівае такую справу. Арганізатары сельскага турызму маюць падатковыя льготы, атрымліваюць пазыкі і крэдыты на прымальных умовах. Няўрадавыя арганізацыі праводзяць для іх семінары, курсы, выдаюць каталогі аб іх паслугах.

Федэрацыя "Гасцінны двор" стала членам Еўрапейскай арганізацыі сельскага турызму. Яна кансультуе спецыялістаў, абараняе інтарэсы сваіх членаў, арганізуе агратурыстычныя кірмашы, семінары.



*Параход плыве па... лузе.*

У Польшчы звыш 11 тысяч гаспадарак прымаюць турыстаў. Дзякуючы гэтаму вяскоўцы могуць атрымліваць дадатковы даход, не звязаны з сельскагаспадарчай вытворчасцю. Моладзь мае больш шырокі выбар спецыяльнасцяў. Цяпер вёсцы патрабуюцца гіды, кулінары, афіцыянты, музыканты для арганізацыі змястоўнага адпачынку для прыезджых. Гэта замацоўвае юнакоў і дзяўчат у сельскай гаспадарцы. Да таго ж будуюцца добрыя дарогі, цырульні, лазні, рэстараны, аб'екты культуры і быту, што таксама патрабуе шмат рабочых рук і мяняе традыцыйны сельскі воблік.

Калі мець на ўвазе, што ў Польшчы занадта шмат людзей (па еўрапейскіх мерках) займаецца сельскай гаспадаркай, дык уцягненне вяскоўцаў у іншыя сферы дзейнасці мае выключна важнае значэнне. У цэлым у ляснoй і сельскай гаспадарцы краіны занята амаль 19 працэнтаў працоўнага насельніцтва, у той час як у краінах Заходняй Еўропы толькі 4,5 працэнта. Калі ўлічыць, што Еўропа і так завалена прадуктамі харчавання, дык змяншэнне колькасці іх вытворцаў у Польшчы набывае асаблівы сэнс. Вось развіццё агратурызму і спрыяе вырашэнню гэтай праблемы. Адным словам, мы бачым добры, эфектыўны метад рашэння складаных задач.

**Іван МАКАЛОВІЧ.**

*(Працяг будзе.)*

*Жывуць народныя традыцыі.*

НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Бабуля-мама

Гаспадыня толькі што закончыла мыць падлогу. У хаце пахла свежасцю, было чыста і ўтульна.

— Вось так і корпаюся з ранку да вечара, — разгінаючы стомленую спіну сказала Тэрэза Сымонаўна. — Работы па гаспадарцы хапае: трымаю карову, цяля, двое свиней. А ўзрост немалады — семдзесят сем гадоў маю. Ды я не скарджуся на долю. Усё, што мне выпала, — маё, і нікуды ад гэтага не дзенешся...

Высокая, не па ўзросту стройная жанчына з сівымі валасамі выклікала ў мяне пачуццё жалю і захаплення, глыбокай удзячнасці за тое, што не зламалі яе жыццёвыя нягоды, што выстаяла і перамагла.

Муж памёр рана. Чорным стаў дзень.

— Як яна вытрымае? — шкадавалі Тэрэзу Сымонаўну Моніч суседкі з вёскі Вішнялецк. — Трое дзяцей на руках.

А яна вытрымала. Сына і дзвюх дачушак выпеставала. Дзе не хапала харчу, там дапамагала нязгасная мацярынская любоў і пяшчота.

— Ты, Саша, вывучышся на ветэрынара, будзеш жывёлу лячыць. Вельмі патрэбная на вёсцы спецыяльнасць. І вы знойдзеце сабе дарогу ў жыцці, — прыхінаючы да сябе дзяўчынак, ласкава казала ім мама.

Мара яе збылася. Стаў Саша ветэрынарам. Лячыў жывёлу ў калгасе. Ніколі не адмаўляў і вяскоўцам, калі захварэе іх уласная карова ці парася.

Ажаніўся Саша. І жонка яму да пары была: лагодная, працавітая, рукадзельніца, якіх пашукаць. У паляводчую брыгаду на розныя работы хадзіла. Трое сыночкаў нарадзілі яны з Сашам. І Тэрэза Сымонаўна жыла разам з імі. Не была абдзелена ні ласкай, ні ўвагай, ні шчырай любоўю. І думала маці, што нарэшце лёс змілаваўся над ёю, паслаў спакойную шчаслівую старасць.

Але памылілася жанчына: бяда зноў падпільноўвала яе, каб ударыць знянацку, а потым паглядзець, ці хопіць сілы выстаяць. Раптоўна памёр сын. Ляжаў ён у труне, а маці больш за ўсё хацела, каб быць у гэты час на яго месцы. Як у бясконцым чорным тумане хадзіла яна.

— Навошта ж так? — невядома ў каго пытала жанчына. — Мне б памерці, а ён няхай бы жыў. У яго ж дзеткі малыя, яшчэ да розуму не даведзеныя. Чаму так несправядліва?

Не было адказу...

Толькі крыху пачаў прыціхаць боль страты, як новае гора пераступіла парог дома Монічаў: памерла нявестка. І засталася Тэрэза Сымонаўна і бабуляй, і мамай для траіх сваіх унукаў: вучы, выхоўвай, у людзі выводзь. Яна для іх адзіная апора і надзея. Толькі клопаты аб асірацелых унуках і трымалі яе на гэтым свеце, прыдавалі сілы.

Старэйшы ўнук Міша паступіў у медыцынскі універсітэт і вучыўся там выдатна. А калі скончыў школу Жэня, без цяжкасцей паступіў у сельскагаспадарчую акадэмію. Малодшы Ігар вучыцца ў ПТВ.

— І ўсё ж-такі, нягледзячы ні на што, ёсць і ў маім жыцці шчасце, — выціраючы ражком хусцінкі заплаканыя вочы кажа Тэрэза Сымонаўна. — Добрымі людзьмі выраслі ўнукі: працавітыя, да вучобы здатныя, да мяне ўважлівыя, любяць і паважаюць. Як прыедуць на канікулы — ніколі без справы не сядзяць. І сена на карову назапасяць, і бульбу дапамагаюць пасадзіць ды выкапаць, дроў нарыхтуюць. Да таго ж стараюцца і капейку якую зарабіць сабе на абноўкі.

Не толькі на канікулы прыязджаюць яны дадому. Як толькі ёсць магчымасць — спяшаюцца ў родны куточак. Я іх і сустрэну, і выпраўлю. Радуюся іх радасцям, хвалююся, калі што-небудзь не ладзіцца.

Тэрэза Сымонаўна акінула поглядам сваю чыстую ўтульную хату і працягвала далей:

— Мінулым летам хлопцы рамонт зрабілі, шпалеры паклеілі, падлогу пафарбавалі. Словам, падрыхтаваліся да провадаў: хутка ж нашаму меншаму ў армію ісці. Гасцей трэба паклікаць, хлопцаў вясковых, каб усё было як у людзей.

...Усё можа навука. Вучоныя нават энергію сонца вылічылі наперад. Але ніхто не можа прадказаць магчымасці любячага мацярынскага сэрца. Колькі ў ім ласкі, дабрыні, вынослівасці, колькі высакароднасці і спагады, той сапраўды святой самаахвярнасці, перад якой хочацца нізка схіліць галаву. І якімі ж нікчэмнымі становяцца перад Тэрэзай Сымонаўнай сённяшнія маці-зязюлькі, што не ведаюць нават імя народжаных імі дзяцей. Яны адмаўляюцца ад сваіх немаўлятак з большай лёгкасцю, чым ад няўдала пашытай у атэлье сукенкі. Няхай жа павучацца яны ў гэтай святой жанчыны мужнасці і самаахвярнасці.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

## Прэзентацыя карціны «Яшчэ пра вайну»

На Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" адбылася прэзентацыя мастацкага фільма "Яшчэ пра вайну" рэжысёра Пятра Крывастаненкі.

Карціна паводле аповесці В.Канецкага "Хто глядзіць у аблокі" расказвае пра двух закаханых, пачуцці на трываласць якіх выпрабавала вайна. У фільме здымаліся Святлана Кажамякіна, Вера Палякова, Анатоль Кот, Аляксандр Кананoвіч, Дзмітрый Пусцільнік.

Як паведаміў пасля прэзентацыі Пётр Крывастаненка, "гэты фільм без выстралаў і баёў, ён больш расказвае аб чалавечым лёсе, але ўсё роўна вайна прысутнічае ў кожным кадры і адбіваецца на лёсах усіх герояў". Ён зазначыў, што карціна "Яшчэ пра вайну" — яго рэжысёрскі дэбют (*раней Крывастаненка працаваў аператарам.* — **БелаПАН**). "Я даўно хацеў здымаць фільм, і калі мне прапанавалі некалькі сцэнарыяў, я спыніўся на гэтым: тут няшмат слоў, тут больш перажыванняў душы. Мне гэта падабаецца — калі працуеш з акцёрамі, каб ад іх дамагчыся нейкіх эмоцый і перадаць гэта гледачу", — сказаў ён. Паводле слоў П.Крывастаненкі, на вытворчасць карціны затрачана каля 300 млн. рублёў. Праца над фільмам вялася два гады.

Прэм'ера фільма і сустрэча з творчай групай адбудуцца 1 ліпеня ў кінатэатры "Кастрычнік", а 3 ліпеня ў гэтым жа кінатэатры пройдзе бясплатны кінасеанс.

Гаворачы аб сваіх далейшых планах, рэжысёр паведаміў, што марыць зняць да 60-годдзя перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне шматсерыйны тэлевізійны фільм — "пра танкіста, які 3 ліпеня 1941 года ўварваўся ў Мінск і зрабіў пагром, а пасля ён жа першым уварваўся ў Мінск у 1944 годзе". "Гэта надзвычай цікавы чалавечы лёс, а галоўнае — праўдзівая гісторыя, а не прыдумка", — сказаў рэжысёр.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

Народная Воля
29 ЧЭРВЕНЯ 2004 г.

ЭКСКЛЮЗИВ

# Такие мужчины рождаются в местах ссылки Достоевского

*С Андреем СУРОТДИНОВЫМ, скрипачом "Аквариума", я присела в гримерной, надеясь на то, что здесь нас никто не отыщет и не станет мешать беседе. Но не успела нажать кнопку "запись" на диктофоне, как наше уединение было нарушено: в гримерную зашел Шар (Олег Шавкунов, перкуссионист группы, всегда сияющий и улыбающийся публике из-за левого плеча Бориса Гребенщикова). Не обращая на меня внимания, он спокойно переоделся в свою обыкновенную несценическую одежду и спросил Андрея, где будут ужинать музыканты. "Здесь", — ответил ему Андрей. Решив не терять время впустую, я сразу же принялась за расспросы.*

**— Андрей, кто решает организационные вопросы в группе?**

— Я.

**— Не боитесь ответственности?**

— Нет.

**— Вы чувствуете, что кто-то в "Аквариуме" главнее, кто-то сильнее, а кто-то на вторых ролях?**

— Порой я задумываюсь об этом...

**— На сайте "Аквариума" есть ваша биография. Вы родились в Семипалатинске.**

— Да. В этом городе родились и братья Кличко!

**— Интересуетесь боксом?**

— Сегодня включил телевизор, увидел братьев Кличко и очень порадовался, что такие мужчины рождаются в местах ссылки Достоевского.

**— Каким было ваше детство?**

— *(Задумался.)* У нас, ясное дело, не было роликовых коньков. Помню, на первую зарплату купил портвейн. Тогда я работал в кочегарке... Я купил портвейн для моих друзей, которые давали мне мастер-класс, как лучше истопить котел. Я, видимо, слишком много портвейна выпил, потому что котел был взорван. Кстати, у меня есть свидетель — Олег Гончаров *(звукорежиссер группы, именно благодаря ему и Александру Докшину "Аквариум" звучит именно так, каким мы слышим его на концертах и компакт-дисках. — **Н.Ш.**)*.

**— Это происходило в Семипалатинске?**

— Нет, уже в Петербурге.

**— Как вы перебрались в Петербург?**

— Выиграл конкурс юных музыкантов: я был чемпионом по скрипке в степи...

**— А в музыкальную школу вас отправили родители или вы сами решились?**

— Решил я сам, но потом они меня удерживали. Я старался пойти в какую-нибудь другую школу, какую угодно, но только не в музыкальную и только не по классу скрипки. Скрипка хороша, когда ее слушаешь, но когда начинаешь ею заниматься, она начинает скрипеть... и вообще мне не нравится, как она звучит в руках учеников. Вообще, когда игра превращается в обязательную программу — это как-то не очень... Вот почему я продолжил учиться в музыкальной школе. Однажды я сломал руку, и, когда ходил в гипсе, на третью неделю мне стало интересно: неужели у меня пальцы не будут двигаться? Тогда я взял скрипку, чтобы разработать руку, моя мать была в полном восторге. До музыкальной школы дошел слух, что я настолько влюблен в скрипку, что готов играть на ней даже со сломанной рукой. Это был очень мощный пиаровский ход! Мне после этого вообще можно было не заниматься: все и так думали, что я до безумия влюблен в музыку, если даже со сломанной рукой не могу не играть.



**— Теперь, когда вы постоянный музыкант "Аквариума" и у вас есть график концертов и записей, игра превратилась в обязательную программу — не скучно ли играть?**

— Нет.

**— Расскажите, как вы оказались в "Аквариуме"?**

*(задумавшись, загадочно произносит):* — Есть способ...

*Тут в гримерную заглядывает Олег Гончаров.*

**— Вот, кстати, и свидетель взрыва в кочегарке. Скажи, пожалуйста, что этот взрыв — это не моя работа!** — обращается к нему Андрей.

— Ну да. Андрей этим помог нам просто переселиться в более тепленькое место, — ответил "северный индеец" Олег.

**— И все же: ваш приход в "Аквариум" — случайность или...?**

— Да ну, это не мое дело — определять, случайно или не случайно...

**— Какая вам нравится музыка, что вы любите слушать?**

— Да кроме "Аквариума" ничего, наверное...

**— Когда вы впервые сыграли с "Аквариумом"?**

— 1 марта 1995 года.

**— Научила ли вас чему-нибудь жизнь в группе?**

— Конечно. Я стал больше слушать "Аквариум" и меньше всякую другую музыку.

*В комнатке, где мы с Андреем разговаривали, становилось все шумнее: музыканты собирали инструменты. Андрей на несколько секунд отвлекся.*

— На чем мы остановились?

**— На том, что "Аквариум" хорошо звучит, когда его слушаешь в зале... Когда вы на сцене, успеваете ли насладиться игрой музыкантов или же полностью отданы рабочему процессу?**

— Иногда я заслушиваюсь и забываю, что нахожусь на сцене...

**— Вас утомляют частые гастроли, не хочется ли побыть дома?**

— Хочется.

**— А что для вас дом?**

— Дом... Это когда приходишь домой, там человек двадцать гостей, и они требуют чего-то еще...

**— У вас есть хобби?**

— Я коллекционирую... впечатления.

**— В каких городах вам доводилось жить?**

— Семипалатинск, потом Казахстан, Петербург, Москва, Торонто, опять Петербург... Я считаю, Петербург — это лучшее место на свете.

*Когда мы вышли из гримерной, Андрей подошел к стоящему за кулисами фортепиано и неожиданно заиграл. Музыканты прошли мимо, а я не удержалась и снова нажала на диктофоне кнопку "запись"... Теперь вот слушаю музыку милого человека.*

**Наталия ШУХМАН.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Асцярожна, наркотыкі!

*Як паведаміў на прэс-канферэнцыі галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя Беларусі Уладзімір Максімчук, сітуацыя з распаўсюджваннем наркаманіі ў краіне застаецца напружанай. Зараз агульная колькасць хворых на наркаманію, якія знаходзяцца на наркалагічным уліку, дасягнула 10.452 чалавекі.*

Апошнім часам назіраецца рост колькасці наркаманаў сярод жанчын. Іх колькасць складае 1565 чалавек, у той час як у 1999 годзе на ўліку было 869 чалавек. Паступова павялічваецца ўжыванне наркалагічных сродкаў сярод асоб маладога ўзросту — 1470 чалавек, у 1999 годзе людзі ва ўзросце да 18 гадоў у гэтым асяроддзі складалі 8 працэнтаў. Па-ранейшаму трывожнымі застаюцца сацыяльныя характарыстыкі хворых на наркаманію. Так, стабільным на працягу апошніх гадоў застаецца паказчык непрацуючых сярод нарказалежных — 67—70 працэнтаў. Павялічваецца колькасць студэнтаў, што ўжываюць наркотыкі. Студэнты, якія знаходзяцца пад наглядам медыкаў, складаюць 13,4 працэнта ад агульнай колькасці наркаманаў, у той час як у 1999 годзе такіх было 6 працэнтаў. 73 працэнты нарказалежных не маюць сям'і, 50,9 працэнта маюць судзімасць.

Гаворачы аб працы, якая праводзіцца ў краіне па барацьбе з наркаманіяй, яе прафілактыкай і лячэннем нарказалежных, Уладзімір Максімчук паведаміў, што Беларусь з'яўляецца практычна адзінай сярод краін СНД, якая захавала наркалагічную службу. Так, цяпер дзейнічаюць 610 дзённых стацыянараў, працуюць 48 участковых нарколагаў, створаны пяць рэабілітацыйных цэнтраў.

Паводле слоў начальніка аддзела па супрацьдзеянні незаконнаму абароту наркотыкаў Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі Рамуальда Андрыеўскага, апошнім часам у Беларусі назіраецца "актыўная перабудова" наркатычнага рынку: на змену традыцыйным наркотыкам раслiннага паходжання прыходзяць сінтэтычныя. Найбольшую папулярнасць набыў метадон, які паступова выцясняе гераін. Сёлета агульная вага метадону перавысіла ўзровень 2003 года ў 5,7 раза і склала 464 грамы. Акрамя таго, асаблівую трывогу выклікае масавае распаўсюджванне псіхатропных рэчываў, у прыватнасці, стымулятараў амфетамінавага шэрагу. Гэты від наркотыку, адзначыў спецыяліст, атрымлівае ўсё большую папулярнасць сярод моладзі і распаўсюджваецца ў месцах масавага адпачынку. У Беларусі працягваецца рост злачынстваў, звязанных з незаконным абаротам наркотыкаў, паведаміў Р.Андрыеўскі. Паводле яго звестак, за пяць месяцаў гэтага года па лініі незаконнага абароту наркотыкаў было выяўлена 2240 парушэнняў, што на 65 працэнтаў больш да ўзроўню 2001 года.

**Вольга АСІПЕНКА.**



# З працы не вярнуліся...

Апошнім у жыцці стаў адзін з нядаўніх чэрвеньскіх дзён для 53-гадовай рабочай сельгаспрадпрыемства імя Ціміразева Глыбоцкага раёна. Трагедыя здарылася на зернетаку ў час выгрузкі збожжа з бункера. Калі раптам з нейкай прычыны ссыпанне зерня прыпынілася, жанчына, забыўшыся на асцярожнасць, вырашыла даведацца, у чым справа, і спусцілася ў бункер, дзе яе імгненна засыпала зернем, метровая таўшчыня якога цісне сілай у адну тону. Каб дастаць нябожчыцу, спатрэбілася разразаць бункер...

За пяць з паловай месяцаў бягучага года на прадпрыемствах Віцебшчыны атрымалі смяротныя траўмы 17 чалавек — на 10 больш, чым за адпаведны перыяд летась. Узрасла і колькасць цяжкіх траўм — з 37 да 51. Больш за ўсё выпадкаў траўматызму ў Віцебску, Верхнядзвінскім, Глыбоцкім і Гарадоцкім раёнах, а сярод галін — у будаўніцтве і сельскай гаспадарцы.

Галоўнай прычынай няшчасных здарэнняў на вытворчасці, як звычайна, з'яўляецца парушэнне правіл аховы працы. Статыстыка сведчыць, што траўмы і атручэнні выйшлі ў Віцебскай вобласці і на трэцяе месца сярод прычын смяротнасці насельніцтва.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ЕВРО-2004

МОЗАИКА

## Бойкот

*Британское издание Sun призвало своих читателей бойкотировать швейцарские товары.*

Более того, в знак протеста против судейства швейцарского арбитра Урса Майера на матче Euro-2004 Англия—Португалия английские журналисты призвали к уничтожению всех швейцарских часов.

## Сувенир

*Мяч, который после удара капитана сборной Англии Дэвида Бекхэма с одиннадцатиметровой отметки в матче с Португалией улетел в неизвестность, уехал в северную Испанию.*

Как сообщает Рейтер, после того как в матче англичан с португальцами спортивный снаряд улетел на трибуну, его поймал 25-летний Пабло Карраль. Он прыгнул за мячом и сразу же спрятал его под рубашку.

## Дела семейные

*Оттмар Хитцфельд возглавит сборную Германии, если разрешит жена.*

Тренер, который является главным кандидатом на замену ушедшего после поражения на Euro-2004 Руди Фёллера, заявил, что он хотел бы больше времени проводить с семьей.

## Ставки

*После выхода чехов в полуфинал букмекерская контора "William Hill" опубликовала новые ставки на победу в чемпионате Европы.*

Если ранее букмекеры ставили на португальцев, то теперь фаворитом турнира считается именно сборная Чехии.

## Запрет

*Главный тренер сборной Греции Отто Рехагель запретил своим футболистам пить спиртные напитки после победы в четвертьфинале Euro-2004 над французами.*

"Греки очень любят праздновать, но иногда нужно уметь сказать себе "нет", — сказал тренер. — Более того, я запретил им пить кофе вечером перед матчем. Результат вы видите сами".

# Португальские «Титаники»

*Полуфиналисты определены. В среду в 1/2 финала Евро-2004 встретятся сборные Португалии и Голландии, в четверг — Греции и Чехии.*



*Двухметровый гигант ликует после первого забитого гола в ворота датчан (№9 — чешский форвард Ян Коллер).*

Это первенство, безусловно, войдет в историю уже хотя бы потому, что футбольные титаны Европы идут в Португалии ко дну так же успешно, как и славный "Титаник" в Атлантическом океане. К заранее считавшимся фаворитами турнира (а теперь — выбывших из борьбы) Испании, Англии, Германии и Италии теперь добавился еще и последний чемпион Европы — сборная Франции, которую в четвертьфинале благополучно "похоронила" главная сенсация Евро-2004 — команда Греции — 1:0.

Впрочем, французов на поле никак нельзя было назвать живыми. А во втором тайме и вовсе складывалось впечатление, что их лидер Зинедин Зидан, который, кстати, уже начал подумывать об уходе из большого спорта, был заменен. За что боролись, на то и напоролись. Браво, греки!

Игра голландцев со шведами была, наверное, наименее зрелищной, и дело дошло до послематчевых пенальти, где "оранжевым" повезло больше. Но что вы хотели? В играх "на вылет" здоровый прагматизм — норма.

Нормой посчитали и победу чехов над сборной Дании (3:0). Отдохнувшие основные футболисты сборной Чехии (напомним, что в последнем групповом матче чехи выставили на игру второй состав) показали красивый и грамотный футбол и справедливо могут рассчитывать на победу в этом чемпионате.

Кстати, так же считают и букмекеры, моментально среагировавшие на добротную игру чехов. Ставки — на них.

Но португальский чемпионат преподнес уже немало сюрпризов и футбольной общественности, и простым болельщикам. Дошло до того, что один вьетнамец, поставивший 10 тысяч долларов на верную победу французов над греками, в итоге "пролетел" и в расстроенных чувствах зарезал свою жену.

Так что со ставками не торопитесь. А если и проиграли, то будьте мужественными — принимайте поражение с честью. Это касается и болельщиков, и футболистов.

**Алесь СИВЫЙ.**

## ЕВРОанекдот

— Василий Иваныч, хочешь, анекдот расскажу?
— Давай, Петька!
— Встречаются как-то англичанин, немец и русский...
— А-а, это про футбол, это не смешно...

***

Комментатор:
— Футболисты сборной Голландии буквально парят над газоном! Что и говорить, хорошая в Португалии травка...

29
чэрвень

**АЎТОРАК**
Усх. 4.41 Зах. 21.46
Даўж. дня 17.05
Поўня 2 ліпеня

Сёлета спаўняецца **70 гадоў** з часу ўтварэння (1934) Мінскага раёна



ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Пецярбургская камедыя ў Мінску

*2—8 ліпеня ў Мінску на сцэне адрамантаванага Дома культуры прафсаюзаў пройдуць гастролі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра камедыі імя Н.Акімава. Беларускіх прыхільнікаў тэатра чакае сустрэча з бліскучымі расійскімі акцёрамі Анатолем Равіковічам, Ірынай Мазуркевіч, Міхаілам Свеціным, Артурам Вахам і іншымі.*

Упершыню трупа тэатра пабывала з гастролямі ў беларускай сталіцы летась. Яшчэ тады дырэктар тэатра **Лілія Сямёнава** казала, што мала якія расійскія трупы маюць магчымасць гастраляваць па краінах СНД: гэта вельмі дорага і клопатна. Але ў тэатра імя Акімава ёсць добры спонсар — расійскі дабрачынны фонд "Навацыя", дзякуючы якому і адбыліся мінулагоднія гастролі ў Мінску. *"Гэта было непаўторна, —* узгадвае **Лілія Сямёнава.** *— Нас так шчыра сустракала мінская публіка, што многія акцёры не хацелі ад'язджаць з Мінска і па-сапраўднаму плакалі. Калі зараз беларускі тэатральны праект "Віртуозы сцэны" зноў запрасіў нас у беларускую сталіцу, мы ахвотна пагадзіліся".*

На гэты раз у рэпертуарным спісе акімаўскага тэатра крыху менш спектакляў. Аднак мінчане ўбачаць лепшыя пастаноўкі пецярбуржцаў.

**"Мой вішнёвы садзік"** заўсёды праходзіць з аншлагам. Галоўную ролю ў ім выконвае папулярны артыст **Артур Ваха**. Спектакль не мае ніякага дачынення да п'есы Чэхава. Гэта сучасная гісторыя пра трагічнае жыццё "новага рускага".



У лірычнай камедыі **"Хачу здымацца ў кіно"** задзейнічаны вядомыя акцёры **Анатоль Равіковіч, Ірына Мазуркевіч, Ксенія Каталымава.** Спектакль **"Яблычны злодзей"** — аб каханні і спадзяваннi знайсці таго адзінага, за якім можна пайсці на край свету. У камедыі **"Вяселле Крачынскага"** ролю Расплюева выдатна іграе народны артыст Расіі **Міхаіл Свецін**.

*"У Дзень 60-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў мы вырашылі зрабіць падарунак беларускім дзецям, —* расказвае **Лілія Сямёнава**. *— Раніцай 3 і 4 ліпеня бясплатна пройдзе спектакль "Кошка, якая гуляла сама па сабе". Усе расходы па арганізацыі спектакля ўзяў на сябе фонд "Навацыя".*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

## Вторник, 29 июня

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!"
**07.30, 08.30** "Деловая жизнь".
**09.05 "Был месяц май".** Киноповесть.
**11.05, 17.20 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**11.55** "100 шагов к Олимпу".
**12.10, 18.30** "Шпилька".
**12.40, 19.25 "Государственная граница".** Сериал.
**14.05** "Зона Икс".
**14.15** "Одноклассники". Телеигра.
**15.15 "Динотопия".** Сериал.
**16.05** "5х5".
**17.10** "Специальный репортаж".
**19.05** "Жажда жизни". Видеофильм АТН.
**20.45** "К-19. Двадцать пять лет до Чернобыля". Видеофильм АТН.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Общественная безопасность".
**22.00 "Летний дождь".** Мелодрама.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.20** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55** "Дисней-клуб". "Мышиный дом".
**15.50 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.50** "Большая стирка".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.00 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.25** "Не только о футболе".
**23.50** "Подлинные истории "Машины времени".

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55 "Бедная Настя".** Сериал.
**08.40** "Короткое замыкание".
**09.40, 23.05** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 15.40, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50, 17.05 "Команда".** Сериал.
**11.50 "Ундина".** Сериал.
**16.10 "След оборотня".** Сериал.
**18.00 "Комиссар Рекс".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**20.55 "Настоящая женщина".** Мелодрама.
**22.45** "Вести +".
**23.20 "Каскадер".** Боевик.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг".
**08.35, 22.05 "Время выбрало нас".** Сериал.
**09.45** "Пой, душа!"
**10.15, 18.15** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.40, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.25, 13.15** "Обычный необычный день".
**12.00 "Константин Заслонов".** Драма.
**13.45** "Киту-домовой". Мультфильм.
**14.10 "Кортик".** Худ.фильм.
**15.20** "Не зевай!"
**15.35 "Маугли".** Сериал.
**15.55** "Пока жив, я с тобой". Телеспектакль.
**16.40** "Ностальжи".
**17.10 "Три года".** Драма.
**18.35 "Заблудший".** Мелодрама.
**19.50** "День длиною в жизнь".
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**23.20** Мотобол. Чемпионат Европы. Видеообзор.

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Красная смерть". Фильм Александра Герасимова.
**10.25** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание".
**17.35** "Протокол".
**18.40 "Мангуст". "Страсти по маркизу".** Сериал.
**19.50 "Не ссорьтесь, девочки".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "Красная стрела".
**21.50 "Однажды в Калифорнии".** Сериал.
**22.55 "Клан Сопрано".** Сериал.

**СТВ+RenTV**

**06.30, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Столичный футбол".
**08.55** "Добро пожаловаться".
**09.10** "Трансформеры". Мультфильм.
**09.35 "Летят журавли".** Кинороман.
**11.15** "Чудное телевидение". Док.фильм.
**11.40** "Пока горит свеча".
**12.10** "Час суда".
**13.00** "Под углом 23 с половиной градуса". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Ангел на дорогах".** Сериал.
**14.50 "Мятежный дух".** Сериал.
**15.35** "Маска". Мультсериал.
**16.00** "Дудочка и кувшинчик". Мультфильм.
**16.10** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Вовочка".** Сериал.
**17.40** "Жизнь подземного города". Видеофильм.
**18.15** "Телеафиша".
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш...".
**20.35** "Закон и криминал".
**20.55 "А у нас была тишина".** Драма.
**23.20** "Игровой рефлекс".
**23.30 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.10** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.50, 17.00 "Моссад".** Сериал.
**08.00 "Дети шпионов-2: остров несбывшихся надежд".** Комедия.
**09.20, 21.00** "К-видео" — "Топ-8".
**09.30** "Академия жизни".
**09.45, 19.50 "Полиция Гамбурга".** Сериал.
**10.45, 21.10 "Ограбление по-французски".** Комедия.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.50, 20.40** "Телемагазин".
**18.00 "Граф Монте-Кристо".** Сериал.
**19.40** "Мобилизация".
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Американская дочь".** Комедия.
**09.40** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Момент истины".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.30** "Я — мама".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Командоры, вперед!".
**16.00 "Расследование Элоизы Ром".** Сериал.
**17.15** "Очевидное-невероятное".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.00 "Возвращение Шерклока Холмса".** Сериал.
**21.40** "Тюрьма и воля".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "По закону".** Сериал
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**08.00, 08.30, 09.00, 13.30** Футбол. ЕВРО-2004.
**10.00** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".
**10.30** Пляжный волейбол. Мировой тур в Германии.
**11.30, 17.30** Легкая атлетика. Гран-при в Чехии.
**13.15** Эстафета олимпийского огня.
**14.00** Футбол. Классика европейских чемпионатов.
**15.00, 19.30** Бокс. Международные соревнования.
**20.45** Новости футбола.
**21.00** Легкая атлетика. Гран-при в Хорватии.
**23.00** Сумо. Гранд-турнир (Башо).
**00.00** "Цель — Афины".
**00.30, 02.15** Новости "Евроспорта".
**00.45, 01.45, 02.00** Автогонки НАСКАР. Серии в США.



**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Індэкс 63222.**

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 530 экз. Заказ № 678.